


# Веcткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamleńni**



Сусьветнае сеціва: *e-krama.com*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
*P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*



**№ 1 (635)**
**Студзень 2019 г.**




Зычым усім радасных Калядаў і шчасьлівага Новага году!

2019

## Шаноўныя падпішчыкі “Вестак і Паведамленьняў!

Па недагляду рэдакцыі й кіраўніцтва арганізацыі ў календары Згуртаваньня “Пагоня”, што вы атрымалі разам з папярэднім нумарам бюлетэня, закралася процьма памылак. На важнейшыя зь іх мы абавязаныя зьвярнуць вашую ўвагу.

**1. Чэрвень месяц пачынаецца ў суботу, а не ў пятніцу. Дні ад 1-га да 23-га чэрвеня трэба пасунуць на адзін дзень наперад. Апошні тыдзень, пачынаючы ад Купальля, надрукаваны правільна.**

**2. На старонцы за кастрычнік пераблытаныя даты на маленькіх календарах на папярэдні і наступны месяцы.**

**3. У лістападзе Veterans Day будзе ў панядзелак 11-га верасьня, а не 10-га, як надрукавана.**

**4. На старонцы за сьнежань пераблытаныя даты ў маленькім календары на папярэдні месяц.**

Прыносім нашыя прабачэньні за гэтыя прыкрыя памылкі.



# Сьнежаньскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 8 сьнежня, у Доме Маракоў на Мангэтане адбыўся чарговы, сьнежаньскі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку сходу старшыня арганізацыі сп. Віталь Зайка распавёў пра імпрэзы, што нядаўна прайшлі пад эгідай Згуртаваньня “Пагоня”, у тым ліку пра адзначаньне ў Нью-Брансўіку, Нью-Джэрзі, 98-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну, супольна зь Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем у Нью-Джэрзі, якое ўлучала ўдзел у паніхідзе па слуцкіх змагарах, ускладаньне вянкоў да помніка беларускім вайскоўцам на могілках у Іст-Брансўіку і ўрачыстым таварыскім абедзе з нагоды імпрэзы.

Затым адбылася тэматычная частка сходу – інфармаваньне пра Нью-Ёрскі маратон, рэгістрацыю на яго і падрыхтоўку да ўдзелу ў ім. Сёлета Нью-Ёрскі маратон стаў бліжэй тутэйшым беларусам, бо ў ім афіцыйны ўзяла ўдзел пэўная колькасьць прадстаўнікоў Беларусі або тых, хто бег пад беларускім сьцягам. Сярод іх Тацяна Грыневіч, што заняла 63 месца сярод жанчынаў, з вынікам 2 гадзіны 57 хвілінаў. 1-е месца ў мужчынаў было з вынікам 2:05:59, 1-е месца сярод жанчынаў – 2:22:48. У маратоне бралі ўдзел таксама Аксана Кузьміцкая і Аліса Ксеневіч, што паказалі больш сьціплыя вынікі, і таксама Станіслаў Гехт, які і выступіў першым па тэме маратону.

Сп. Гехт даў аугульную інфармацыю пра Нью-Ёрскі маратон як адзін з найбольш прэстыжных маратонаў у сьвеце, у якім сёлета ўзяло ўдзел 52 тысячы чалавек. Сярод іх – каля 15 чалавек зь Беларусі, прынамсі, як вядома. Затым сп. Станіслаў Гехт патлумачыў, як патрапіць на маратон. Для гэтага ёсьць чатыры магчымасьці. Першая – праграма New York Road Runners (арганізацыі, што ладзіць маратон), якая завецца “9+1” – 9 раз прабегчы пэўную дыстанцыю з заліковым вынікам і 1 раз пабыць валанцёрам на адным зь мераприемстваў па бегу. Удзельнікі маратону таксама мусяць аплаціць складку ў 250 даляраў. Наступная магчымасьць – пэрсанальны варыянт, прабегчы дыстанцыю вышэй за нейкі парогавы вынік. Яшчэ адзін спосаб – узяць удзел у лятарэі па розыгрышу ўдзелу, і выйграць месца. І апошняя магчымасьць – узяць удзел у дабрачыннасьці на карысьць New York Road Runners і сабраць пэўную суму сродкаў. Затым Станіслаў Гехт распавёў пра свой удзел, гэта было празь першы варыянт рэгістрацыі. Падрыхтоўка заняла прыкладна год, прынамсі актыўная фаза яе. Старт маратону – на Статэн-Айлэньдзе, і туды заўсёды трэба прыяжджаць раней. Затым пачынаецца фаза забегу праз мост Варазана. Удзельнікі пакідаюць усю верхнюю вопратку, якая передаецца затым у Ратавальную Армію (Salvation Army). Па дарозе на кожнай мілі стаяць станцыі сілкаваньня вадкасьцю і ежай. Самая цяжкая частка, на думку прамоўцы, пачынаецца на 16-й мілі, за мастом Кўінсбара. Сп. Станіслаў Гехт прабег маратон за 4 гадзіны 23 хвіліны.

Затым перад прысутнымі выступіў сп. Раман Балдзіжар, які браў удзел у маратоне як валанцёр і дапамагаў у падрыхтоўцы. Ён распавёў пра Нью-Ёрскі маратон у параўнаньні з другімі маратонамі, сярод якіх у Амэрыцы ёсьць, напрыклад, Бостанскі й Чыкагаўскі, а ў сьвеце вядомыя Лёнданскі, Бэрлмнскі й Парыскі маратоны. Сусветны рэкорд цяпер каля 2 гадзінаў 3 хвілінаў. У Амэрыцы больш за 99% удзельнікаў гэта аматары, і ў Бостане сёлета першае месца заняў аматар. Наагул у ЗША вельмі распаўсюджаны рух бегуноў, ёсьць розныя дыстанцыі, якія падыходзяць канкрэтнаму чалавеку, і можна сабе заўсёды падабраць дыстанцыю, скажам, 5 км або паўмаратон, або нешта яшчэ. Затым сп. Раман Балдіжар распавёў пра сябе і свой досьвед зь Нью-Ёрскім маратонам. Наагул для ягонага ўзросту норма, каб патрапіць –

*заканчэньне на бачыне 3*



# Адзначэньне ў Нью-Джэрзі 98-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну

У нядзелю, 2 сьнежня 2018 году, у Нью-Джэрзі адбыліся мерапрыемствы па адзначэньні Дня Герояў і 98-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну, ладжаныя супольна Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем "Пагоня" і Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем у Нью-Джэрзі. Раніцай 2 сьнежня ў Царкве Маці Божае Жыровіцкае ў Гайлэнд-Парку была адслужаная паніхіда па Слуцкіх Паўстанцах, якую адслужыў а. Зінові Жалобак, родам украінец з Карпатаў, які таксама ўзгадаў Герояў-Случчакоў у сваёй казані. На паніхідзе прысутныя трымалі беларускі й амэрыканскі сьцягі, а таксама гістарычны сьцяг з ДыПі-лягеру ў Віндышбэргердорфе, Нямеччына, ад Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў з 1947 году, з надпісам "Перамога і Незалежнасьць!"

Затым удзельнікі сьвяткаваньня накіраваліся на беларускія могілкі ў Іст-Брансўіку. Там быў ускладзены вянок да помніка Беларускім вайскоўцам-героям, што мае надпіс: "Тым, што змагаліся, каб жыла Беларусь". Падчас ускладаньня выступіў старшыня Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня" сп. Віталь Зайка, які коратка спыніўся на падзеях таго часу і закрануў важнасьць шанаваньня памяці нашых папярэднікаў, што са зброяй у руках і са сьцягам, на якім былі словы: "Мы пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына" ў няроўным змаганьні, выйшлі бараніць Бацькаўшчыну ад бальшавіцкай навалы. Затым выступіў старшыня аддзелу БАЗА ў Нью-Джэрзі сп. Юрка Азарка, які распавёў пра традыцыю ўскладаньня вянкоў на Дзень Герояў і пра гісторыю стварэньня помніка Беларускім вайскоўцам-героям на могілках у Іст-Брансўіку, які быў узьведзены ў 1972 годзе.

Прысутныя пасьля маглі адведаць магілы слынных асобаў, што спачылі на беларускіх могілках у Іст-Брансўіку, у тым ліку ўдзельніка Слуцкага Збройнага Чыну а. Хведара Данілюка, паручніка ў Слуцкай брыгадзе, а потым сьвятара і грамадзкага дзеяча, старшыні БАЗА Антона Шукелойця, які браў удзел у адзначаньні ўгодкаў Слуцкага Збройнага Чыну ў міжваенны час у Заходняй Беларусі супольна з колішнімі змагарамі-Случчакамі, удзельнікамі Чыну.



Пасьля гэтага ўдзельнікі імпрэзы сабраліся ў дайнэры "Амэга", дзе ў сяброўскай, таварыскай гутарцы прайшоў урачысты абед. Прысутныя паднялі келіхі паўстанцкай настойкі за памяць аб Слуцкіх Змагарах, і пры добрай ежы мелі нагоду калегавацца зь сябрамі і знаёмымі.

Асобная падзяка за арганізацыю імпрэзы належыцца сп. Юрку Азарку.

***Віталь ЗАЙКА***

# Сьнежаньскі сход "Пагоні"

***заканчэньне з бачыны 2***

3 гадзіны 5 хвілінаў, а для Нью Ёрку – 2 гадзіны 55 хвілінаў, гэта цяжка. Але можна прабегчы паўмаратона за 1:23, і ён менавіта так і зрабіў. Сам з Мазыра, вучыўся ў Гомелі, браў удзел у маратоне 2004 году ў Асіповічах. Бегаў паўмаратоны на Статэн-Айлэньдзе, у Атлянтык-Сіці, Філядэльфіі, а таксама 5 км і 15 км. Дарэчы, тут, у Нью-Ёрку, ёсьць шмат бегавых клюбаў, суполкі ў Фэйсбуку, дзе ёсьць мажлівасьць рыхтавацца з трэнерам, атрымліваць дапамогу з транспартам на маратон, саколкі з сымболікай ды іншыя выгоды. Добра было б заснаваць беларускі клюб, суполку. Бо існуюць клюбы польскі, украінскі ( у ім каля 400 чалавек), а беларускага няма, і, дарэчы, расейскага няма таксама. Звычайна падрыхтоўка да маратону патрабуе 10-20 гадзінаў бегу штотыдзень. Сам Раман сказаў, што бегае 5 разоў на тыдзень, звычайна па 30-40 хвілінаў, а на выходныя доўгі забег на 1,5-2 гадзіны. Трэба паступова павялічваць нагрузку, пажадана мець трэнера. Бегавая лента ў джыме ў залік не ідзе, бо там задзейнічаная іншая мэханіка бегу. New York Road Runners – арганізацыя, што аб'ядноўвеае розныя бегавыя клюбы і арганізоўвае маратоны.

Абодва прамоўцы выступалі па-беларуску, былі зь цікавасьцю выслуханыя прысутнымі і адказалі на шматлікія пытаньні.

Затым сп-ня Ганна Шарко павіншавала прысутных з надыходзячым Новым годам і раздала ўсім цукеркі як сымбалічны падарунак-віншаваньне, а затым зрабіла аб'яву пра сустрэчу зь беларускай-рэжысэркай фільму "Крышталь".

Потым перад прысутнымі выступіў сп. Зьміцер Левіт, які распавёў пра жыцьцё ў Беларусі пад Саветамі, у праватнасьці, у брэжнеўскія часы, і пра гэбрайскую гісторыю і гісторыю сваёй сям'і.

Напрыканцы сходу, у разьдзеле "Рознае", адбыліся знаёмствы з асобамі, што першы раз прыйшлі на сход Згуртаваньня "Пагоня", а затым прысутныя мелі нагоду працягнуць знаёмствы пры сьціплых пачастунках.

***Віталь ЗАЙКА***

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Merry X-mess

Сустракаючы другія запар Каляды ў канзаскім Ўінфільдзе неяк я дужа засумаваў па сапраўдным калядным кірмашы. Найлепшыя такія кірмашы, скажу я вам, ня ў немцаў ці скандынаваў, а ў нашых кроўных братоў чэхаў і маравакаў. Цяпер гэтыя “вайнахтмаркты” ўжо дапаўзьлі нават да Вільні, значыць, хутка будуць і ў нас. Але самая непаўторная і нязмушаная перадкалядная атмасфэра менавіта ў якім-небудзь Брне ці Аламоўцы. Для гандляроў выдатная магчымасьць падзарабіць на гарачым віне (ням. Gluhwein ад gluhender Wein – распаленае віно) з цынамонам за неадэкватных 5 эўра за кубак. Ці на нейкіх іншых мясцовых прысмаках, тыпу славацкага “трдзельніка”, салодкай выпечкі, якая смажыцца на грылі і прыпраўляецца гарэхамі з цынамонам. Калядны кірмаш – гэта месца, дзе пануе нязмушаная перадкалядная атмасфэра.

Дык вось. Прачытаў недзе ў аб’яўцы, што ў мястэчку Понка-Сіці, непадалёк Ўінфільду, ладзяць калядны кірмаш. Шчасьцю майму не было канца. Паеду, думаю, акунуся ў амаль родную, добра знаёмую атмасфэру. Падбухторыў сяброўку-амэрыканку, узяў машыну і паехалі. Ехаць ня вельмі далёка, хоць і ў другі штат, у Аклахому. Але Понка-Сіці і Ўінфільд прыгранічныя мястэчкі.

Па дарозе Рына пачала апавядаць, як яна паўжыцьця марыць выбрацца на сапраўдны “вайнахтмаркт” у Нямеччыну і абавязкова зробіць гэта пры найбліжэйшай нагодзе. Трэба ведаць, што яна любіць падарожнічаць, а ў асаблівым захапленьні, як і шмат якія амэрыканцы, ад Эўропы. Сяджу, слухаю і неяк задумаўся. Навошта табе гэтая дзікая Нямеччына. У Францыі, Брытаніі паўсюль нейкія тэракты-неціхоты. Едзь ты лепш у Прагу, калі табе патрэбны сапраўдны калядны кірмаш і табе ўласнае жыцьцё дарагое. А на двары, трэба дадаць, быў толькі сьнежань 2012 году. Масавай нелегальнай міграцыі ў Эўропу, у фармаце інвазіі вандалаў, тады не было. Пра тэракты на кірмашах і думаць ніхто ня думаў. Сказаў бы, дык абсьмяялі б.




Прыехалі мы ў гэты Понка-Сіці, зайшлі ў нейкі ангар, куды тамтэйшыя местачкоўцы пасьцягвалі розную непатрэбшчыну са сваіх гаражоў і гарышчаў. Аказалася, гэта нешта накшталт харытатыўнай акцыі зь нейкай канкрэтнай мэтай, у фармаце “каляднага кірмашу”. Ні табе гарачага віна, ні плаўленых сыркоў, ні водару цынамону. Аблізнуліся і паехалі назад.

Учора чытаю навіны – “народжаны ў Штрасбуры сын эмігрантаў з баявым воклічам “Алаху акбар” забіў трох і цяжка параніў яшчэ дзясятак на калядным кірмашы ў Францыі”. Неяк гэтыя дзясяткі, заўважце, сталі ўспрымацца без эмоцыяў, як нейкая штодзённасьць, без якой немагчыма абыйсьціся. Як абстракцыя, маўляў, гэта недзе далёка і не пра нас, пакуль не даведаешся, што адзін з забітых – гэта знаёмы твайго знаёмага... У 2016 годзе ў натоўп людзей, якія прыйшлі ўдыхнуць перадкалядную атмасфэру ў Бэрліне ўехаў іншы “Алаху акбар” на фуры. Такая новая калядная традыцыя. Пакуль што толькі Заходняй Эўропы.

Даслаў Рыне спасылку з артыкулам на ангельскай. Адпісалася: „Yikes”.

***Віталь ВОРАНАЎ***

### Уплаты ў Згуртаваньне
Складкі й ахвяраваньні:

| | |
|---|---|
| **В. Біліда** | **60** |
| **Д. Біліда** | **60** |
| **А. Казакоў** | **60** |
| **С. Маляўка** | **60** |
| **А. Пазьняк** | **60** |
| **Н. Прэйс** | **60** |
| **Ф. Прэйс** | **60** |
| **А. Савіцкі** | **60** |
| **В. Ціхаміраў** | **60** |
| **А. Ярашэвіч** | **60** |

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**

***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” *Viktar Yedzinovich.***

### Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **12-га студзеня 2019 году** ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак Дома Маракоў знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.

Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца наведаўшы сайт **pahonia.com***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

| | |
|---|---|
| **В. Біліда** | **30** |
| **С. Гроцык** | **30** |
| **А. Казакоў** | **30** |
| **А. Курушка** | **30** |
| **С. Маляўка** | **30** |
| **І. Мілеўскі** | **30** |
| **А. Пазьняк** | **30** |
| **Н. Прэйс** | **30** |
| **А. Савіцкі** | **30** |
| **А. Ярашэвіч** | **30** |

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*